# НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №13. 1993*


**СЬМЕРЦЬ ГЕТМАНА** Вінцэнта-Га сеўскага Фрагмэнт беларускай гісторыі XVII стагодзьдзя у перакaзе Генадзя Сагановіча: За што жаўнерь забілі свайго ўлюбёнага каманьдзера?

**БЕЛАРУСКІЯ ПАЛЯЎНІЧЫЯ АДДЗЕЛЫ** (егерская служба) ствараюцца з кандыдатаў у грамадзянства БНР — на правох паляўнічых таварыстваў пры філіях Беларуска Кельцкага Зьвязу. Маюць узбраеньне — паляўнічыя стрэльбы а таксама сабакаў – ірляндзкіх сэтэраў, што найлепш дачуваюць каманду па беларуску Перамяшчаюцца на раварох і пеша Маюць ранжыр *(Са Статуту БПА)*

**МІЛАРАД ПАВІЧ** Хазарскі слоўнік. Фрагмэнты трох кніг пра прынцэсу Атэх (IX стагодзьдзе) якая, магчыма была першым аўтарам гэтага слоўніка — упершыню па-беларуску.

# Лёнданская лекцыя прэзыдэнта БНР



**Апавяданьне**

# У ЦІШЫНІ НАЧЫ

С Пхоу



Позна ўначы не хадзеце па вуліцы! Там гуляе грубая сіла й гаспадарыць гвалт Іх законы незразумелыя, а ўчынкі заўжды нечаканыя. Іх вочы тояць прыцягальны жах, падобны да вусьцішнай бездані чорнага неба, а боязь сустрэцца зь імі вабіць нібы магнэс!

І таму я выходжу на вуліцу позна ўначы

Мне здавалася, што я добра ведаю гэты горад, кожны будынак, кожную шыльду па-над вакном. Але цяпер усё выглядае інакш. І ў гэтай нязнанасьці я адчуваю зладвесны сэнс.

Вулічны страх спакваля дасягае да самага сэрца. Спачатку вас ахінае змрок, пасьля вы заўважаеце што на вуліцы пуста. Але гэта падманлівая пустата, яна ўся працятая напружаным чаканьнем, якое даводзіць да панікі, да істэрыі!

Я іду па вуліцы Вежы — паміж скрывуленых камяніц, што затаіліся у цемры да вежы. Недзе тут хаваецца грубая сіла. У цішы я чую кожны скрып маіх чаравікаў. Больш няма ані гуку на гэтым шляху між зачыненых дзьвярэй і вакон. Толькі ў дварох чуваць пранізьлівыя каціныя віскі — так падобныя да няўцешнага дзіцячага плачу. І гэта зусім невыносна — дзіцячыя крыкі ў пустым горадзе які сьпіць

Я насьцярожваюся, я думаю: вось, зараз выйдуць яны і толькі зірнуць на мяне — я адразу страчу і голас і рух. Я здранцьвею ўвесь і, вядома, нічога ня здолею сказаць ў адказ. Мне прасьцей было б напісаць. Але ж яны не чытаюць нічога ніколі, тым болей цяпер. Яны паводзяць сябе так, быццам усё тут належыць ім. Магчыма, мне трэба неяк абвергнуць іхнюю нахрапістую пэўнасьць. Але як? Хай бы яны адразу пачыналі біцца, — я б паказаў ім, на што я здатны. Хай бы нават загінуў. Але сам распачаць не змагу. І крычаць ім якіясь абразы — так невыносна!

Сонная вуліца бліжай да вежы робіцца ўсё больш напружанаю — Усё, што тут ёсьць усё творыць гэты псыхоз: самотныя ліхтары адкідаюць марнае сьвятліва рэдкі дождж блішчыць на камяньні дзікага бруку, крывыя муры старажытных дамоў усьміхаюцца ці рагочуць ці крычаць чорнымі бяззубымі ратамі сваіх выгбаў, нібы квазімоды, — іхні жах памнажае іхняя старажытнасьць. Вусьціш вечнага гораду зноў нагадвае мне сказ пра пачвару, што калісь хавалася ў сутарэньнях пад вежай

Пачвара забівала людзей паглядам. І пагляд яе быў падобны да бездані чорнага неба прыцягальны й сьмяротны. Шмат людзей загінула ад яе забойчых вачэй. Але аднойчы людзі паслалі ў сутарэньні злачынцу-сьмяротніка. Ён марудна ішоў цёмным каменным праходам. І калі пачвара выскачыла з-за павароткі, каб забіць яго сваім жахлівым паглядам, ён павярнуўся да яе сьпінаю. А на сьпіне ў яго было прымацаванае люстэрка. Пачвара сустрэлася вачыма сама з сабою. Жудасны лямант разарваў цішыню начы І ўсё скончылася...

Ад успаміну мяне праціла халодным потам. І тут у першым паверсе

*Праця на старонцы 4*

